

# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА-ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 33 (61) 13—19 кастрычніка 1993 г. Кошт 10 руб.


## ЗВАРОТ

### Апазіцыі БНФ да кіраўніцтва Рэспублікі Беларусі

Апазіцыя Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусі ўхваляе рашучыя дзеяньні прэзідэнта Расеі спадара Ельцына па ліквідацыі чарговага фашыстоўска-камуністычнага мяцяжу ў Маскве, распачатага экстрэмістамі 3-га кастрычніка. Мы выказваем спачуваньні родным і блізкім нявінна забітых людзей у Расеі, асуджаем камуністычных і фашысцкіх забойцаў.

Апазіцыя БНФ лічыць, што злачынныя сілы разбою і вайны ў Расейскай Федэрацыі вялі падрыхтоўку да мяцяжу ў Маскве сумесна з камуністамі і пракамуністычнымі, праімперскімі арганізацыямі на Беларусі, зьвяртае ўвагу на сувязь дзеяньняў камуністаў Беларусі і Расеі. Грамадзкім выяўленьнем гэтай сувязі і падрыхтоўкі мяцяжу стаў так званы «Кангрэс народу Беларусі», зьмест якога быў скіраваны на ліквідацыю дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі і аднаўленьне таталітарнага СССР.

Грамадзтва Беларусі стала сьведкам здрады Радзіме часткі дэпутатаў пракамуністычнай большасьці Вярхоўнага Савета Беларусі, якія ўступілі ў злачынную змову са Старшынёй былога Вярхоўнага Савета Расеі і арганізатарам крывавага мяцяжу—Русланам Хасбулатавым і іншымі чырвона-карычневымі сіламі, узначальваемымі сп. сп. Зюганавым, Сьцерлігавым і інш. Усё гэта адбывалася пры спагадных адносінах пэўных структураў і асобаў урада Беларусі (Г. Данілава, С. Гайдукевіча, В. Паўлава і інш.).

Мы, дэпутаты Апазіцыі БНФ, настойваем на тэрміновым склікáньні нечарговай Сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі.

Мы патрабуем ад Савета Міністраў Беларусі тэрміновых захадаў. Менавіта:

—забясьпечыць бясьпеку тэрыторыі Рэспублікі Беларусь ад пранікненьня злачынных груповак і асобаў пасьля разгрому фашысцка-камуністычнага мяцяжу ў Расеі;

—тэрмінова ўвесьці дакументальны і мытны кантроль на межах Беларусі з Расеяй, а ў бліжэйшы час разглядзець пытаньне аб увядзеньні візавага рэжыму;

—забараніць дзейнасьць камуністычных і праімперскіх партыяў і арганізацыяў на Беларусі (ПКБ-КПБ-КПСС, ДСПС, Саюз афіцэраў, Славянскі Сабор «Белая Русь»).

Мы звяртаемся да Генеральнага пракурора Беларусі сп. В. Шаладонава з патрабаваньнем прыступіць да расьсьледаваньня антыдзяржаўнай дзейнасьці гэтых арганізацыяў, ступені іх удзелу ў камуністычным мяцяжы ў Расеі і ў падрыхтоўцы гэтага мяцяжу.

Мы лічым неабходным паставіць пытаньне перад Вярхоўным Саветам аб пазбаўленьні дэпутацкіх паўнамоцтваў народных дэпутатаў Беларусі Генадзя Казлова, Мікалая Скарыніна, Аляксандра Лукашэнкі, Івана Трусава, Мікалая Грынёва, якія выступілі супраць незалежнасьці Беларусі. Мы ставім пытаньне аб расьсьледаваньні Генеральным пракурорам Беларусі іх магчымага ўдзелу ў падрыхтоўцы камуністычнага мяцяжу і ў дзеяньнях, накіраваных на ліквідацыю суверэнітэта і дзяржаўнасьці Беларусі, пра што большасьць зь іх неаднаразова публічна засьведчылі.

Мы патрабуем неадкладна спыніць распаўсюджваньне на Беларусі расейскіх камуністычных і фашыстоўскіх газэт («Правда», «Советская Россия», «День» і г. д.).

Мы лічым недапушчальным знаходжаньне на тэрыторыі Беларусі кіраўнікоў кампартыяў іншых краінаў (сп. сп. Буракявічуса, Шведа і інш.), якія праследуюцца ў гэтых краінах па закону за крымінальныя дзеяньні.

**Народныя дэпутаты Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце:**
**З. Пазьняк, У. Заблоцкі, В. Голубеў, Л. Баршчэўскі, М. Крыжаноўскі, С. Навумчык, Г. Сямдзянава, Б. Гюнтар, А. Трусаў, В. Аляміеў, С. Антончык, У. Новік, Ю. Беленькі, Л. Зданевіч, І. Пырх, Л. Тарасенка, В. Малашка, І. Гермянчук, Л. Дзейка, І. Герасюк, А. Шут, П. Холад, Я. Цумараў, В. Даўгалёў (член дэпутацкай групы «Згода»).**

**Вера АДРАДЖЭНСКАЯ**

Божа, дай сілаў, здаецца,
звіхнуўся...
Што гэта—здзек ці праклёнцця
ўрок?
Мы ж, беларусы, з братняю
Руссю
Разам шукалі да шчасця дарог.

Разам шукалі й разам блукалі,
Разам заведзены ў бездань
і зман.
Зноў быў семнаццаты, залпы,
стралялі,
Зноў масквічы памíралі ад ран.

А ў Беларусі, над ціхай Дзвіною,
Плошча Свабоды на ганьбу
ішла:
Грошы збірала зламанай рукою,
Той, што дагэтуль наперад вяла.

Грошы збірала і смерць
бласлаўляла.
Плошча, асфальт твой у рускай
крыві.
Чым жа ты з братняй нас Руссю
яднала?
Хіба ж да шчасця дарогі вялі?

## У ГАЗЕЦЕ:



## Пракурору Віцебскай вобласці М. С. Шахметаву

### ЗАЯВА

1 кастрычніка 1993 года аб'яднанне «Працоўны Віцебск» на пляцы Волі ў Віцебску праводзіла збор грошай «для осажденного российского парламента».

3 кастрычніка ў Маскве прыхільнікі распушчанага расійскім прэзідэнтам Вярхоўнага Савета пачалі ўзброеныя напады на будынкі мэрыі горада і тэлекампаніі «Астанкіна». У выніку загінулі нявінныя людзі.

Просім правесці расследаванне аб дачыненні аб'яднання «Працоўны Віцебск» да падрыхтоўкі й правядзення масавых узброенных беспарадкаў у сталіцы Расійскай Федэрацыі.

Просім таксама вызначыць магчымасць аналагічных дзеянняў у Віцебску членаў аб'яднання «Працоўны Віцебск».

**М. ПАЎЛАЎ, І. ЦІШКІН, В. АРЛОЎ, Б. ХАМАЙДА, У. ПЛЕШЧАНКА, У. ПАДГОЛ.**

*Лісты чытачоў*

## З фашызмам гуляць небяспечна

У тым, што адбылося ў Маскве ў нядзелю, няма нічога дзіўнага. Францыя, пазбаўляючыся імперскай спадчыны, перажыла на працягу чатырох гадоў тры вайсковыя путчы. Няма ў гэтым нічога дзіўнага і таму, што на маскоўскія вуліцы абрынуўся гвалт, які сеялі грамадзяне Расіі без усялякай перашкоды з боку расійскай улады ў Прыднястроўі, Сербіі, іншых гарачых кропках, ваюючы за грошы ці «абараняючы інтарэсы расейскамоўнага насельніцтва». Менавіта там набываўся баявы вопыт, магчыма, што там здабывалася і зброя.

Гэтыя падзеі яшчэ раз пацвердзілі тую ісціну, што з фашызмам нельга гуляць у плюралізм. Цяпер, і ў гэтым можна не сумнявацца, падобныя арганізацыі будуць забаронены ў Расіі. А ў нас? У нас мясцовыя філіялы гэтых арганізацый, якія носяць падобныя назвы і выкарыстоўваюць тыя ж самыя сцягі і сімвалы, аб'ядналыя ў адну арганізацыю з дэпутацкай большасцю і фактычна знаходзяцца пры ўладзе. Людзі, будзьце пільнымі!

**Віктар СЦЯПАНАЎ, г. Орша.**

## А на вуліцах не пацішэла

Паліўна-энергетычны крызіс, да якога прывёў Беларусь урад таварыша Кебіча, дабраўся і да Сенненскага раёна. У нядзелю, 19 верасня, не выйшаў у рэйс ніводны аўтобус мясцовага аўтапарка. Шматлікіх патэнцыяльных пасажыраў аўтастанцыя ў райцэнтры сустракала аб'явай: «Автобусов не будет. Нет бензина». Дарэчы, не было яго і ў панядзелак, і ў наступныя дні.

Як ні дзіўна, але на вуліцах і дарогах пацішэла не вельмі. І прыватны, і службовы аўтатранспарт працягвае калясіць і па патрэбах, і без іх. Па-ранейшаму гойсаюць на матацыклах акселераты. І дзе толькі людзі здабываюць бензін?

**І. ЛАЗУКА.**

## Каб не было крыві і ў Беларусі

У сярэду вечарам у цэнтры Віцебска быў праведзены гадзінны пікет. Прыхільнікі дэмакратыі патрабавалі адстаўкі пракамуністычнага ўрада, забароны дзейнасці антыбеларускіх аб'яднанняў, што фактычна з'яўляюцца філіямі расійскіх арганізацыяў, на рахунку якіх ахвяры кастрычніцкага мяцяжу ў Маскве.

**К. СТУСЬ.**

## Пратэстуе не толькі БНФ

Днямі стала вядома, што жнівеньскае рашэнне Віцебскага гарвыканкама «Аб забароне святкавання дня 8 верасня ў Віцебску» пракуратурай нашай вобласці апратэставанае. Аб выніках разгляду пратэсту будзе паведамлена пазней.

**М. К.**

*Сесійныя заметкі*

## Нават студэнты ходзяць на сесіі, а дэпутаты!

6 кастрычніка не адбылося вячэрняе пасяджэнне абласнога Савета. Атрымаўшы па 1200 рублёў за поўны дзень працы і не дачакаўшыся завяршэння сесіі, многія дэпутаты зніклі. У выніку астатнія народныя выбраннікі не сабралі кворуму і вымушаны былі раз'ехацца па дамах да чарговай, снежаньскай, сесіі аблсавета.

**Н. ПРЫСУТНЫ.**

## Нашыя спачуванні

У кулуарах той жа сесіённай імпрэзы не аднаразова гучалі праклёны ў адрас выбранага народам кіраўніка адной усходняй краіны, якая перажыла нядаўна колькі непрыемных дзён. Некаторыя народныя дэпутаты ледзьве не плакалі, шкадуючы аб няўдачы спробы іхніх замежных калегаў скінуць прэзідэнта з ягонай пасады.

**Назіральнік.**

## Свет вакол нас

● Урад Славакіі прыняў праект пастановы, паводле якой рэлігійныя абшчыны змогуць вярнуць сабе амаль усе будынкі, землі, лясы, адабраныя раней камуністычнаю ўладаю.

● Францыя і Чэхія хочуць утварыць супольныя вайсковыя часткі, якія будуць дзейнічаць у рамках ААН.

● Праект пабудовы газаправода з Сібіры ў ФРГ праз Беларусь і Польшчу выклікаў незадаволенасць некаторых польскіх палітычных партый.

**Паводле паведамленняў заходніх мас медыяў падрыхтаваў М. МАРУДАЎ.**

*У мясцовых філіях*

## Гаварылі дзве гадзіны

На мінулым тыдні прайшло пасяджанне Віцебскай філіі Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. З дакладам аб пытаннях, якія нядаўна разглядаліся Цэнтральнай Радай партыі, выступіў намеснік старшыні гарадской арганізацыі БСДГ Валянцін Арлоў. Прысутныя выказалі свае думкі пра эканамічнае становішча, аб супрацоўніцтве з прафесійнымі саюзамі, абмеркавалі матэрыялы новага нумара газеты «Грамада», колішняга друкаванага органа сацыял-дэмакратаў. Было сказана колькі слоў і аб падзеях у Расіі.

Віцебскія грамадоўцы закранулі праблемы арганізацыйнай працы ў партыі і, у прыватнасці, у мясцовай філіі.

**М. КАЛІНОЎСКІ.**

# ВЯРХІ КРУЦЯЦЬ, НІЗЫ СЬПЯЦЬ

«Частная собственность—главное орудие эксплуатации человека человеком!»—асноўная формула з «Маніфесту» Маркса, з якой камуністы-бальшавікі зрабілі выснову дзеля пабудовы міфічнага камуністычнага грамадзтва: «Пазбавіць Чалавека ўласнасьці!» Сюды ўкладваецца ўвесь марксізм-ленінізм з яго «экспроприацией экспроприаторов» (гэта значыць—«рабуй награбаванае»), што выцякае з марксавага вучэньня «О прибавочной стоимости». Такім чынам, нікому не дазвалялася быць прыватным уласьнікам, акрамя тых, хто паставіў сябе кіраваць гэтай дзяржаўнай рабоў. Ім належала ўсё і ўсе. Ці магчыма кіраваць рабамі дэмакратычным шляхам? Ясная справа—немагчыма: «Законы в переходный период имеют временное значение и потому, когда они противоречат развитию революции, они либо отменяются, либо заменяются» —Ленін. Вось адсюль і яго фармулёўкі.

**Фармулёўка 1:** «Государство, милые друзья, есть аппарат насилия одного класса над другим». Гэта азначае падзел грамадзтва па сацыяльных прыкметах (адносіны да ўласьці на сродкі вытворчасьці) з вынішчэньнем уласьнікаў (бальшавізм). Падзел жа грамадзтва па нацыянальных прыкметах з вынішчэньнем «ніжэйшых» нацыяў—фашызм.

Адсюль можна сёньня лёгка бачыць і «чырвоных», і «карычневых». Тут, увогуле, невядома, хто кім кіруе. Гэта двуадзіны хаўрус. Яны, заяўляюць аб адзінстве «славянскай нацыі» ў гуртаваньні вакол «славянскай» Расеі. Як мне вядома, «славянскасьць» Расеі заканчваецца там, дзе пачынаюцца Татарстан, Калмыкія, Мары, Комі, Тува і г. д. Як паставяцца гэтыя нацыі, да таго, што іх расейскія шавіністы залічылі славянамі? Расейскі «славянскі» шавінізм стаіць ад фашызму на крок, а ад грамадзянскае вайны на паўкрока.

Дык пра якіх жа «славян» вядзецца размова ў шавіністаў, калі пытаньне стаіць аб адраджэнні ўсіх нацыяў? Відавочна, што ізноў хочуць асядлаць усе народы пад «мудрым» кіраўніцтвам КПСС. Спадзяванка ў іх адна—людзі не разьбіраюцца і не разьбяруцца ў гэтай кругаверці, што да чаго, і самахоць апынуцца ў былым ярме.

Нядаўна езьдзілі ў Расею і былі на прыёме ў Хасбулатава дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі тт. Лукашэнка, Казлоў, Скарынін, Іван Трусаў. Вырашалі «эканамічныя» пытаньні ад імя пракамуністычнай бальшасьці—групы «Беларусь» у Вярхоўным Савеце. Хто ж такі Хасбулатаў? Да каго імкнуліся гэтыя «славяне»? Каго ўзначальваў «славянін» Хасбулатаў? Пракамуністычны Вярхоўны Савет Расеі! Чаму ж шчэмяцца так у хасбулатаўскую Расею камуністы, якія зараз кіруюць рабамі на Беларусі? Яны ведаюць, што беларус на беларуса і, увогуле, тутэйшыя не палезуць у бойку за іх камуністычныя інтарэсы. Тут патрэбныя байцы з іншых рэгіёнаў, «славяне» з Казахстану, Таджыкістану ды іншых месцаў, а там —патрэбныя нашы хлопцы. Вось тады будзе бойка. Так было заўсёды ў СССР. Гэта служыла асновай «братства» і «дружбы» ўсіх народаў імпэрыі. Нядзіўна цяпер, што наш беларускі нейтралітэт і незалежнасьць Украіны сталі камуністам-шавіністам упоперак горла.

**Фармулёўка 2:** «Демократия—есть форма государства»—гэта азначае, згодна Леніну,—хто пры ўладзе—такая і дэмакратыя. Пры ўладзе буржуазія—буржуазная дэмакратыя. Пры ўладзе Саветы—дэмакратыя дыктатуры пралетарыяту на чале з бальшавікамі (савецкая дэмакратыя). Дапаўняе гэтую фармулёўку наступная: «Демократия—есть диктатура большинства над меньшинством». (Якая ўжо тут «демократия», калі меншасьць не мае ніякіх правоў). Тут «первая демократия» ніяк не стасуецца з «другой», бо ў Расійскай імперыі налічвалася каля 3-х мільёнаў пралетарыяў, што складае каля 1,5% агульнай колькасьці насельніцтва. Як ні круці, усё гэта прыдумана дзеля апраўданьня захопу ўлады ў 1917 годзе. Згодна гэтай тэорыі фашызм гітлераўскай Германіі таксама быў дэмакратыяй як форма дзяржавы. Фашызм асуджаны міжнароднай супольнасьцю, тэарэтыкі і заправілы пакараныя. Камуністы ж у нас працягваюць прапаганду сваёй антычалавечай тэорыі, хаваючыся пад аблічам «социальной справедливости», «рабочего движения» і т. п.

Аб якой «справедливости» імі вядзецца гаворка? Схематычна гэта выглядае так: 1. Стварыць такую сістэму заканадаўства і разьмеркаваць сваіх людзей так, каб было магчыма кіраваць толькі зьверху, абмінаючы народ.

2. Спачатку абрабаваць усіх інвалідаў, пэнсіянераў, ветэранаў, абясцэніўшы ўклады ў Ашчадбанку, а потым абараняць «неимущих» і крычаць аб гэтым на кожным рагу, робячы выгляд добрых дзядзькаў.

3. Захаваць усімі сіламі сістэму Саветаў як аснову бальшавізму. («Советы—для борьбы, но не для государственной власти!»—Ленін).

4. Пастаянна ствараць крытычныя сітуацыі, а потым накіроўваць усе намаганьні на выпраўленьне становішча (справы з нафтай, газам, харчаваньнем, гарэлкай, бітвы за ўраджай і г. д.)

5. Дэзінфармаваць людзей па ўсіх магчымых кірунках.

6. Пусьціць на самацёк рост злачыннасьці, асабліва сярод моладзі.

7. Стымуляваць схаванае беспрацоўе, пры поўным развале эканомікі, калі ўсім трэба рабіць да рабіць.

Вось, напрыклад, асушылі Палесьсе, засеялі, збажыну, бульбу, а тут затапіла ў дождж і не раз ужо. Ну, сапраўды, хто б мог падумаць, што былое балота можа затапліваць!? Дзе ж, маўляў, бачылі, каб нізіну затаплівала вадой, магчыма гэта на ўзгорках. Зараз ідзе кампанія па выратаваньню ўраджаю і людзей. Колькі хватаў нагрэюць на гэтым рукі. А бабулькі на Палесьсі застануцца ні з чым. Аналагічна з Чарнобылем: ну хто мог ведаць, што нельга праводзіць эксперыменты на жывых людзях!? Людзі маўчаць—усё спішацца.

Так было з 1917 году і так будзе, пакуль людзі не зразумеюць—што такое камунізм, камуністы, іхняя наменклатура, іхняя палітыка, «эканоміка», улада і кіраваньне.

**Рыгор КУКСАЎ, сябра БСП і БНФ, г. Менск**

# «МОЛЧИ—ЗА УМНОГО СОЙДЕШЬ»

**Расейская народная прымаўка**

У студэнтаў ВНУ з ваеннай кафедрай заўсёды ўлюбёнай забаваю было весьці запісы асабліва «мудрых» выказваньняў асобных прадстаўнікоў «непобедимой и легендарной», што там выкладалі. Беларуская наменклатура, начынаючы з Дзямянцея, не адстае ў сваіх экспромтах і падрыхтаваных прамовах ад незабыўных лейтэнантаў і маёраў.

Газета «Віцьбічы» перадрукавала з «Рэспублікі» інтэрв'ю вядомага ў краіне і далёка за яе межамі (напрыклад, у ЗША) Генадзя Данілава, які гэтым разам выказаўся адносна Аршанскай бітвы 1514 года. Прачытаўшы інтэрв'ю Дзяржаўнага сакратара па барацьбе са злачыннасцю і нацыянальнай бяспецы, хочацца нагадаць, што вядучымі беларускімі газетамі публікаваліся сёлета «Сто пытанняў і адказаў па гісторыі Беларусі», яны выйшлі таксама асобнай кнігай, і з іх варта пачаць. Відавочна, столькі ж ведае і суразмоўца Данілава, неназваны супрацоўнік «Рэспублікі», які беларускіх ваяроў XVI ст. называе «рэкрутамі». Далей спадар Данілаў упрыгожвае сваё інтэрв'ю метафарай (!), у якой самым непаўторным чынам зблыталіся кравецкая і кухарская спецыфікі: «Во все времена, особенно в периоды смуты и хаоса, политические конъюнктурщики стремились перекроить историю к политическому столу». Сапраўды—«смута и хаос»...

А нядаўна выказаўся народны дэпутат А. Лукашэнка, і яго словы са смакам працытавала тая ж «Рэспубліка». Калі ён падае ў адным шэрагу прозвішчы Шушкевіча і Пурышкевіча, то гэта хутчэй падстава драць валасы на сівой галаве для яго настаўніка гісторыі, але вось гэтае яго пытанне дазвольце падаць без каментарыю: «...Россия, как пытаются убедить местные националисты, выталкивает нас в зад из рублёвой зоны и экономического пространства?».

**Віктар СЦЯПАНАЎ.**

# Цярпенне без межаў?

Чарговую сесію Вярхоўнага Савета пануючая на Беларусі камуністычная наменклатура вырашыла склікаць 9 лістапада. Прапановы апазіцыі БНФ аб неадкладным яе правядзенні ў пачатку кастрычніка не атрымалі падтрымкі 29 верасня на пасяджэнні прэзідыума Вярхоўнага Савета. І парадак дня сесіі ВС ён зацвердзіў свой, у ім некалькі дзесяткаў пытанняў, адно з галоўных—прыняцце новай Канстытуцыі рэспублікі. Над такім іх намерам можна было б толькі пасмяяцца, бо яшчэ помніцца, як абмяркоўваўся Асноўны закон на апошняй сесіі: гэтая доўгая песня расцягнецца невядома на колькі. Аднachасова зацягваюцца пакуты народа Беларусі з-за адсутнасці эканамічных рэформаў, раскрадання народнай маёмасці правячай наменклатурай.

БНФ прапанаваў цывілізаванае выйсце: тэрмінова склікаць сесію ВС, прыняць дэмакратычны закон аб выбарах, зацвердзіць дату выбараў у Вярхоўны Савет, а на пераходны перыяд стварыць урад народнага даверу. Гэтыя разумныя прапановы адвергнуты. І зразумела, чаму. Падтрымаць іх—значыць для наменклатуры развітацца з уладай. А дзе гэта бачна, каб бальшавікі добраахвотна аддалі кіраванне? Дзеля захавання ўлады ў сваіх руках яны заўсёды гатовы знішчыць тысячы і мільёны чалавечых жыццяў. Крывавыя падзеі ў Маскве ў чарговы раз сведчаць пра гэта. Менавіта камуністычныя наменклатуршчыкі з Вярхоўнага Савета Расіі арганізавалі бойню ў расійскай сталіцы.

Пэўна, камуністычна-наменклатурная большасць беларускага парламента не зрабіла для сябе ніякіх вывадаў з таго, што адбылося ў Маскве.

А што ж народ Беларусі? Яго абдзіраюць, як ліпку, а ён маўкліва церпіць. З 1 кастрычніка шматразова павысілася аплата за жыллё і камунальныя паслугі. У той жа час сярэдняя зарплата у нас удвая менш, чым у Расіі («АиФ», № 37, 1993). Але ўсё ж не верыцца, што цярпенне ў нашага народа бязмежнае.

За раскраданне народнай маёмасці, за здзек з народа камусьці з цяперашніх уладу маючых ужо ў блізкай будучыні прыйдзецца панесці адказнасць. Не толькі маральную, але й юрыдычную. Таму я параіў бы сяму-таму з рэспубліканскага кіраўніцтва ў вольны ад «клопатаў пра народ» час падумаць над сумным лёсам Э. Хонекера. Т. Жыўкава, Н. Чаушэску ды маскоўскіх путчыстаў 1991 і 1993 гадоў. Мусіць, ім было балюча падаць з вышынь дзяржаўнай улады.

**А. ЯСНЫ.**

*Адсурд нашага жыцця*

Набыў нядаўна Дзяржаўны сцяг у найбліжэйшым да абласной «сталіцы» райцэнтры. Добры сцяг. Вялікі, прыгожы. Толькі вось цэтлік (гл. здымак) надта цікавы. Паводле яго, аказваецца, сімвал Рэспублікі Беларусі выпускаецца мясцовай прамысловасцю нейкай... БССР.

**Н. КІЛДЗІНГ.**



*Пункт гледжання*

# Будучае — у мінулым!

Позна ўвечары 15 верасня паглядзеў перадачу беларускага тэлебачання з удзелам народных дэпутатаў апазіцыі БНФ у парламенце краіны. Насіла яна гуллівую назву «Палітычны калейдаскоп», што далёка не адпавядае сур'ёзнасці ўзнятых праблем. Але не гэта ўразіла. Уразіў вялікі чалавечы боль у вачах Зянона Пазьняка, калі размова ішла аб тым, куды цягнуць Беларусь цяперашнія яе кіраўнікі, цяперашні камуністычны Вярхоўны Савет.

Куды цягнуць, вядома. Для іх галоўнае—не лёс народа, не росквіт нашай Радзімы, а ўласны дабрабыт. Яны ні за што не дапусцяць такога развіцця падзей, якое прывядзе да адхілення іх ад улады. Яны яе ніколі яшчэ і не страчвалі. Пасля жніўня 1991 года партыйныя чыны імгненна перабраліся ў іншыя ўладныя крэслы. Усё, што яны згубілі, дык гэта не вельмі прыемны абавязак плаціць партыйныя ўзносы.

На памяці тое, што яны ўчынілі з воляю ледзьве не паўмільёна беларусаў, якія пажадалі рэферэндуму. Паглядзім, што стане з ідэяй збору подпісаў у прафсаюзных арганізацыях за правядзенне ў сакавіку 1994 года новых выбараў у Вярхоўны Савет. Хаця аб такіх выбарах быццам і было ўжо дамоўлена ў парламенце.

Раней у руках камуністычных функцыянераў знаходзіўся ідэалагічны прэс. Ды і цяпер яны за яго трымаюцца даволі моцна. Пра гэта жыхары Сенненскага раёна, напрыклад, ведаюць добра па перадачах беларускага радыё, па публікацыях у радзе менскіх газет. І нядаўна ў перадачы «Вясковыя ростані» зроблена чарговая спроба выліць цэбар бруду на кіраўніцтва раёна. Канечне, «не ўсё добра ў каралеўстве Дацкім», як засведчыў вялікі Шэкспір. Але некаму вельмі хочацца зноў вярнуцца да ўлады ў раёне. Як жа, былыя партыйныя кіраўнікі ўпусцілі яе! Ды не ўпусцілі. Жыхары раёна ў асобе сваіх дэпутатаў зрабілі свой выбар, а сярод іх, гэтых дэпутатаў, дарэчы, няма ла былых кіруючых работнікаў партапарату, прагаласаваўшых за цяперашняга старшыню раённага Савета Станіслава Вайцяховіча.

Вось і стараюцца «былыя» замест таго, каб аднесціся з разуменнем да рэальнасці, вярнуць мінулае, вярнуць сваю бязмежную ўладу над лёсам жыхароў Сенненшчыны.

Гэта ўсяго толькі прыклад з аднаго раёна. Дык тое ж самае робіцца ў маштабах усёй Беларусі: будучае, маўляў, у мінулым...

**І. ЛАЗУКА, г. Сянно.**

# ВОСЬ ТАКІ АПАГЭЙ

Газэта «Рэспубліка» пэрыядычна зьдзіўляе чытача сваімі «культуралягічнымі» матэрыяламі. Вось і ў нумары ад 22 верасьня 1993 г. зьявіўся артыкул падобнага кшталту «Супэргерой—ой, ой, ой!». Малады пэдагог з Гомельскай вобласьці Літа Караткевіч (ці існуе яна на самой справе?) узьняла ў ім «балючае, хвалюючае» пытаньне—хто ён, сёньняшні супэргерой (безумоўна, у адмоўным сэнсе)? Літа Караткевіч без ваганьняў называе яго—Лявон Вольскі. Менавіта ён, не маючы сумленьня, пішчом лезе на парнаскі пастамэнт, лезе ўсімі магчымымі шляхамі, бо ён «і паэт, і музыкант, і сцэнарыст, і сьпявак, і мастак, і журналіст, і кампазітар, і літаратар, і інш.». Чамусьці малады пэдагог лічыць, што йснаваць у гэтулькіх іпастасях страшэнна непрыстойна, маўляў, «нахрапам» дзейнічае хлопец. Зьдзіўляе дасьведчанасьць пэдагога з Гомельскай вобласці, бо ведае яна: хто на радыё сябры і фанаты Вольскага, у якіх гуртах, акрамя «Мроі», ён грае, калі й якія выставы ладзіў, пад якімі заявамі падпісваўся, што, калі й як пісалі пра яго газэты. Творчая актыўнасьць Вольскага страшэнна абурае Літу Караткевіч і яна на поўным сур'ёзе называе Лявона «лаўцом маладых душ». Карацей, ад усіх творчых зьдзяйсьненьняў хлопца не пакінула каменя на камені—і голас у яго кепскі, і на радыё вядзе «прапаганду алкаголя», і гурт «Новае неба» (дзе таксама грае Вольскі) сумніцельных мастацкіх вартасьцяў, і мастак ён «убогі».

Дасталося ў артыкуле й Таварыству Вольных Літаратараў, якое насьмелілася прыняць у свае шэрагі вышэйназваную «адыёзную» асобу. Цытую: «Апагэям гэтага (?) нахабства стала падзея 8 мая, калі ў Наваполацку сабраліся асобы, якія ня маючы надзеі стаць членамі СП Беларусі, хоць яны-та лічаць сябе надзвычай прагрэсіўнымі і досыць таленавітымі для гэтага, рашылі стварыць свой СП(ТВЛ)—Таварыства Вольных Літаратараў... Сярод подпісаў пад заявай...—і подпіс Вольскага».

Вось так—ні больш, ні менш. Але ў адносінах да каго зьдзейсьнілі нахабства сябры ТВЛ і ў чым яго сутнасьць? Каго яны абразілі, абрабавалі, зьняважылі? Літаратары, аб'яднаныя ў гэтае Таварыства, усяго толькі выкарысталі сваё канстытуцыйнае права. Ці можа выданьне кніг і часопісаў за свой кошт без дазволу пэўных структураў і асобаў і ёсьць тое нечуванае нахабства? Акрамя таго, гэтым разам дасьведчанасьць пэдагога з Гомельшчыны падвяла, бо любы больш-менш абазнаны ў беларускіх літаратурных справах чалавек ведае аб высокім аўтарытэце «тэвэзлаўскіх» празаікаў Вінцэся Мудрова й Пятра Васючэнкі, драматурга Ігара Сідарука, паэта й эсэіста Юрася Пацюпы, паэтаў Славаміра Адамовіча й Алеся Касьценя ды іншых сяброў ТВЛ. І трэба ж вось так абліць іх усіх брудам, маўляў, «згубілі надзею стаць членамі СП Беларусі», таму й «вычвараюцца». Няўжо пісьменьнік робіцца пісьменьнікам толькі пасьля ўваходзінаў у літструктуру СП? Дзякуй Богу, мінулі ўжо тыя таталітарныя часіны і, будзем спадзявацца, беззваротна.

А Ліце Караткевіч, вялікай аматарцы творчасьці Лявона Вольскага, мы паведамляем: сёлета ў Полацку выходзіць паэтычны зборнік вашага ўлюбёнца «Калідор», калі вы паведаміце вашы каардынаты (на адрас **211440, Наваполацак-11, п/с 36**) мы вам дашлем зборнік адразу з друкарскага варштату. Няўжо вы не парадуецеся разам з намі чарговай творчай прыступцы, якую ў гэтым жыцьці выпала адолець творцу?

**Алесь АРКУШ,**
**галоўны каардынатар Таварыства Вольных Літаратараў.**

# Дробязь, але...

Сёння ёсць магчымасць задаволіць свой чытацкі густ самымі разнастайнымі выданнямі. Просты чытач, звычайны падаткаплацельшчык вылучае з уласнага бюджэту пэўную суму грошай і выпісвае любімае выданне. Прыхільнік незалежнасці і дэмакратычнага развіцця Бацькаўшчыны выпіша «Народную газету», «ЛІМ», «Свабоду» і г. д. Хто ўсё яшчэ мроіць аб былой імперыі, хто не разумее неабходнасці нацыянальнага Адраджэння, ахвяруе свае сродкі «Мы и время», «Советской Белоруссии», «Белорусской ниве» і г. д. Альтэрнатыўнасць пoглядаў і разнастайнасць густаў нармальная з'ява. Але сярод чытачоў ёсць купка, якая задавальняе сваё пакланенне мінуўшчыне за грошы падаткаплацельшчыкаў. Ім не трэба лезці ў сваю кішэню, яны за кошт бюджэту, сродкаў прадпрыемстваў атрымліваюць большавіцкую прэсу. Сярод старшынь калгасаў, сельскіх Саветаў, кіраўнікоў заводаў усё яшчэ моцная туга па эсэсэсэрыі і для іх душ бальзамам з'яўляецца чытанка, якую забяспечвае АА «Правда интэрнэшнл». Бо дзе яшчэ так магчыма «са смакам» пастаянна выступаць супраць беларускай дзяржаўнасці, паліваць брудам гісторыю беларусаў і іх мову? Цугам на старонках газеты ідуць артыкулы супраць нашай Айчыны. Іх аўтары самыя розныя людзі: ад выкладчыкаў Віцебскага педінстытута да народных дэпутатаў Беларусі.

Дык чаму б у рабочы час, замест працы, не пачытаць сваіх аднадумцаў, не арганізаваць свой «культурны» адпачынак за грамадскія сродкі? І чытаюць, і арганізоўваюць.

У нашым раёне за кошт пералічэнняў выпісана амаль чвэрць накладу «Правды», што паступае на Гарадоччыну. Гэта склала каля 30 тысяч рублёў. Грошы не вялікія, дробязь—на той час пяць мінімальных зарплат. Але пры падобнай раённай актыўнасці толькі на падпіску «Правды» ў межах дзяржавы выйдзе больш пяцісот зарплат. Упэўнены, што ім магчыма знайсці лепшае прымяненне, чым выкарыстоўваць дзеля задавальнення духоўных патрэб постсавецкай наменклатуры. Пераканаы, што пасля падзей у Маскве наогул нельга за кошт бюджэту выпісваць камуністычную прэсу. Толькі хто на Беларусі навядзе ў гэтым парадак?

**Леанід ГАРАВЫ,**
**г. Гарадок.**

# На Маскву

Рупліўцы віцебскай даўніны падрыхтавалі заўвагі да канцэпцыі вяртаньня вуліцам Віцебска гістарычных назваў, якую распрацавала праф.Ганна Мязэнка. Адна зь іх прапануе парайменаваць Маскоўскі прасьпэкт у Альгердаў шлях як напамінак пра пасьпяховыя паходы на Маскву вялікага князя Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, колішняга віцебскага князя Альгерда ў 1368, 1370, 1372 гадох.

**КЕЙСТУТ.**

# Добры дзень, шаноўная рэдакцыя

Звяртаюся да Вас па дапамогу. «Выбар»—адзіная газета ў амаль чатырохсоттысячным Віцебску, якая стаіць на пазіцыях нацыянальнага адраджэння. Рэдакцыя шмат робіць захадаў, каб звярнуць увагу гарадскіх уладаў на тое бязмежжа, якое дзеецца ў нас і ў справе выканання закона аб мовах.

Як вядома, 1-га верасня ўступілі ў сілу некаторыя артыкулы згаданага закона. І вось днямі, зазірнуўшы ў магазін «Культтавары», што на Маскоўскай шашы, літаральна аслупянеў. Справа ў тым, што крама змяніла сваё вонкавае афармленне і, як вы ўжо здагадаліся, усе надпісы зробленыя на дзяржаўнай мове... Расійскай Федэрацыі. І гэта адразу пасля ўступлення ў сілу адпаведнага артыкула закона аб мовах!!! Большага здзеку з закона, з нацыянальных пачуццяў народа і не прыдумаць. Ды і з Вярхоўнага Савета таксама, бо менавіта ж парламентам быў зацверджаны і сам закон, і тэрміны ўступлення ў сілу асобных яго артыкулаў. А, можа, таварыш Кебіч ужо прадаў Віцебск сваім старэйшым братам? Тады ўсё зразумела...

Я зайздрошчу эстонцам, захапляюся латышамі, з сімпатыяй стаўлюся да літоўцаў. Яны маюць нацыянальныя ўрады, там закон ёсць закон. А беларусы па-ранейшаму адчуваюць сябе ў моцных абдымках усходняга суседа...

Сумняваюся, што хто-небудзь будзе мець непрыемнасці ў сувязі з прыведзеным мною канкрэтным фактам парушэння закона аб мовах. Не тая гэта краіна, дзе паважаюць законы. Але звяртаюся да шаноўнага спадарства з прапановай паспрабаваць высніць, хто вінаваты канкрэтна ў парушэнні закона, ці будуць на яго накладзены якія спагнанні. Гэта трэба ўсім нам, каму неабыякавы лёс Бацькаўшчыны, каму дарагая родная мова.

**Юры БАБІЧ.**

# Свет вакол нас

Летась у Нямеччыне адбылося больш 2,5 тыс. актаў насілля супроць іншаземцаў. З-за дзеянняў ультраправых загінула 17 чалавек, у тым ліку 7 іншаземцаў. «Левыя» экстрэмісты здзейснілі 972 акты гвалту, падчас якіх загінула адна асоба. Аб гэтым паведаміла ў штогадовым рапарце ведамства па ахове канстытуцыі ФРГ.

● У Польшчы створана каталіцкае інфармацыйнае агенцтва—КАІ.

**Паводле паведамленняў замежных мас медыяў**
**М. МАРУДАЎ.**

*З архіваў*

# «Бухгалтэрыя» смерці

*Помнік ахвярам гітлераўскага фашызму ў Віцебску.*

*Фотаздымак* **А. ЛАКОТКІ.**

**Мы працягваем друкаваць спісы вязняў Віцебскай гарадской турмы СД. Пачатак—у «Выбары» №№ 17—22, 25, 26, 30—32. Спісы друкуюцца паводле дакумента «Рэгістрацыйны журнал асоб, арыштаваных СД», які вёўся на нямецкай мове і ахоплівае перыяд з чэрвеня па снежань 1942 года. Мы імкнёмся максімальна перадаць асаблівасці арыгінала.**

**Непаслядоўнасць дат ды недакладнасць некаторай іншай інфармацыі, якія сустракаюцца ў спісе, тлумачацца тым, што менавіта так яны пададзены ў дакуменце. У якіхсьці імёнах і прозвішчах вязняў магчымыя скажэнні ў выніку падвоенага перакладу—з рускай мовы на нямецкую і наадварот, а таксама з-за асаблівасцяў рукапіснага арыгінала.**

**Рэдакцыя выказвае шчырую падзяку супрацоўнікам Віцебскага абласнога архіва за дадзены дакумент.**

**Тетрадь № 8**

**Фонд 2155, опись 2, дело 5**

| Прибытие | Убытие | Номер арестованного | Номер камеры | Фамилия, имя | Кто доставил, арестовал |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | **16.7.42** | |
| 1 | | 2859 | 85 | Фейдук Илья, Григорий | СД |
| 1 | | 2860 | | Кондрашевич Антон | СД |
| 1 | | 2861 | | Резников Самуил | 1 пол. уч. |
| 1 | | 2862 | | Либо Айзик | 1 пол. уч. |
| 1 | | 2863 | | Буткевич Михаил | |
| | | | | **17.7.42** | |
| 1 | | 2864 | | Дубровский Николай | СД |
| 1 | | 2865 | | Шашок Николай | СД |
| 1 | | 2866 | | Каган | СД |
| 1 | | 2867 | | Абраевич Петр | СД |
| 1 | | 2868 | | Пашковский | |
| 1 | | 2869 | | Толстик Александр | 3-й пол. уч. |
| 1 | | 2870 | | Мартинович Михаил | местная комендатура |
| 1 | | 2871 | | Мартинович Петр | местная комендатура |
| 1 | | 2872 | | Сасновский Николай | —»— |
| 1 | | 2873 | | Сасновский Владимир | —»— |
| 1 | | 2874 | | Корицкий Сулейман | —»— |
| 1 | | 2875 | | Медведев Даниэль | —»— |
| 1 | | 2876 | | Кастюков Петр | —»— |
| 1 | | 2877 | | Станович Вера | —»— |
| 1 | | 2878 | | Мурашка Мария | —»— |
| 1 | | 2879 | | Мурашка Вера | —»— |
| 1 | | 2880 | 50 | Хорнунг Терезия | реш. суда |
| 1 | | 2881 | | Лушецкий Евгений | СД |
| 1 | | 2882 | | Сальмин Альфред | СД |
| 1 | | 2883 | | Солотромнов Георг | СД |
| 1 | | 2884 | | Ахмезян Харрис | СД |
| 1 | | 2885 | | Модушен Валентин | СД, внешн. камеры |
| 1 | | 2886 | | Емельянов Иван | СД, внешние кам. |
| 1 | | 2887 | | Дятко Николай | |
| 1 | | 2888 | | Аганезов Владимир | 4 пол. участок |
| | | | | **18.7.42** | |
| 1 | | 2889 | | Грюнблат Борис | 2 пол. уч. |
| 1 | | 2890 | | Будай Иван | СД |
| 1 | | 2891 | 28 | Белов Иван | СД |
| 1 | | 2892 | 12 | Лойзнев Владимир | СД |
| 1 | | 2893 | 12 | Сокришевский Розилия | СД |
| | 1 | 2449 | 88 | Пашкова Люба | отправлены в больницу |
| | 1 | 2635 | 88 | Шидловская Надя | —»— |
| 1 | | 2894 | 12 | Рапопорт Нерах | 2 пол. уч. |
| | 1 | 2430 | 52 | Кулешова | в больницу |
| | 1 | 2269 | 67 | Платонов Александр | СД |
| | 1 | 2651 | 101 | Борисевич Е. | СД |
| | 1 | 2447 | 79 | Петренко Михаил | СД |
| 1 | | 2895 | 14 | Волков Аркадий | |
| 1 | | 2896 | 15 | Герман Игнат | охранные группы |
| | | | | **19.7.42** | |
| 1 | | 2897 | | Фальковский Семен | 2 пол. уч. |

**(Працяг будзе).**

*Тэатральнае жыццё*



Як ведаюць нашыя чытачы, сёлетні сезон тэатр імя Я. Коласа зноў адкрывае «Несцеркай». «Ці варта паўтарацца?», —запытаецца хтосьці. Адказваюць самі коласаўцы і аматары іхняй творчасці.

**Уладзімір Ганчароў, загадчык літаратурнай часткі тэатра:** Гэты спектакль—наш сцяг, няхай сабе і пабіты, але які мы трымаем і губляць не збіраемся.

**Таццяна Кузьміч, журналістка:** Добрыя словы: «Спектакль жыве». Хай жыве!

**Аляксандр Харкевіч, намеснік дырэктара драмтэатра:** Былі сезоны, якія коласаўцы адкрывалі не толькі «Несцеркай», але й,скажам, «Сымонам-музыкай», прэм'ерамі.

**Таццяна Катовіч, тэатральны крытык:** За апошнія гады адбылося столькі зменаў у грамадстве! Гэтая рэч патрэбна людзям, бо ў ёй, як ні дзіўна, ёсць тое, за што можна «зачапіцца» чалавеку.

**Валеры Маслюк, галоўны рэжысёр тэатра:** Тэатральны спектакль у адрозненне ад кінафільма не статычны. Прыходзячы на яго, можна не сумнявацца, што заўсёды будзе нешта новае, непаўторнае. У гэтым сезоне менавіта так і станецца з «Несцеркаю». Мы па-новаму будзем гуляць Шкаляра. Прыходзьце, убачыце!

**Ю. Т.**

На здымку **С. Кохана** сцэна з «Несцеркі».

## Марыць аб багеме

—Я супраць ідэі размяшчэння тэатральнага музея ў будынку на вуліцы Суворава, на аднову якога мы збіралі грошы падчас нашага «Марафона»,—сказаў на прэс-канферэнцыі з нагоды адкрыцця будучага сезона дырэктар, галоўны рэжысёр тэатра імя Я. Коласа Валеры Маслюк.—Пагадзіцеся, што месца ягонае ў тэатры. Чалавек, які прыходзіць да нас, міжволі настройваецца на спазнанне гісторыі тэатральнага мастацтва.

Па словах В. Маслюка, сярод некаторых колаў грамадскасці горада існуе думка аб стварэнні Дома мастацтваў. Пагэтаму галоўны рэжысёр мяркуе, што ў адноўленым будынку варта зрабіць тэатральны дом з выставачнай залай, з клубам дзеячоў мастацтва закрытага тыпу. «Монаспектаклі, чытацкія праграмы, фестываль класічнай гітары—вот гэтае павінна быць там»,—адзначыў кіраўнік тэатра.

**М. К.**

## «Лялька» для дарослых

Стэрэатып аб "дзяцінасці" творчасці віцебскай «Лялькі», пэўна, зломлены назаўсёды. І не толькі таму, што нядаўна тэатр паставіў спектакль «Загубленая душа» для падлеткавай і дарослай публікі. У суботу на эксперыментальнай сцэне коласаўцаў прайшла першая імпрэза сезона —вечар, прысвечаны 30-годдзю аднаго з вядучых акцёраў «Лялькі»—Алеся Ма-ханькова. Малады тэатр яшчэ раз паказаў, што час забыцца на вядомы цэтлік «яны толькі для дзятвы». Сапраўднае мастацтва не ведае межаў.

**Антон ХУТКІ.**

*Прытча*

**Аркадзь ШУЛЬМАН**

## ВАР'ЯТ

На горад Н. напала невядомая хвароба. На працягу гадзіны ўсе страцілі розум і зрабіліся, прасцей кажучы, вар'ятамі. Толькі адзін грамадзянін Бенедыкт, які звычайна спаў у канаве пад плотам, застаўся цэлым ды здаровым. Хвароба, бачна, не заўважыла яго і прайшла міма.

Праспаўся Бенедыкт, устаў з канавы, скінуў з сябе дзяды, агледзеўся вакол і нічога зразумець не можа. У яго хоць галава з перапою і баліць, але розум усё ж цэлы застаўся. А што робяць астатнія жыхары горада нават словамі цяжка перадаць.

У іх уладар у горадзе нягоднік. А ўсе жыхары ягоныя партрэты дома павесілі. Зайшоў Бенедыкт да аднаго знаёмага, пахмяліцца хацеў, бачыць: той стаіць перад партрэтам і «ўра» крычыць.

—Ты што, з глузду з'ехаў?—пытае Бенедыкт.—Чаго крычыш?

Знаёмы ажно ўвесь затрымцеў ад страху і кажа:

—Калі пра такія рэчы пытаешся, ты, пэўна, вар'ят.

Пайшоў Бенедыкт далей. Глядзіць, мужыкі трамвайныя рэйкі не паралельна, а перпендыкулярна адну да адной кладуць.

—Вы што, ненармальныя?—гаворыць Бенедыкт.—Як жа ў вас трамвай пойдзе?

—Ха-ха-ха,—засмяяліся мужыкі.—Глядзі на гэтага прыдурка. Не ведае, што ў нас свой шлях да шчасця.

Прыйшоў Бенедыкт дадому. Глядзіць, а жонка хлебам нож рэжа. Кінуўся выклікаць «хуткую», каб яе ў псіхушку адправіць. Прыехалі лекары, пра ўсё распыталі, усё разгледзелі дый забралі з сабой у псіхушку... Бенедыкта.

**Пераклад з рускай С. Ю.**

## Трэці раз. Паглядзець кіно

**Пасля набыцця Беларуссю незалежнасці Віцебск часта наведваюць замежныя дыпламаты. Днямі ўжо ў трэці раз у горад прыязджаў пасол Індыі Рамеш Чандра Шукла.**

Высокі госць прыбыў да нас на тыдзень індыйскага кіно, што ідзе ў Палацы культуры прафсаюзаў. Дэманструюцца, па словах супрацоўніц арганізатара культурнае падзеі—маладзёжнага цэнтра «ІЛВА», фільмы сучаснага нетрадыцыйнага кінематографа Індыі.

Пасол, апроч удзелу ў кінатыдні, сустрэўся з кіраўнікамі вобласці й горада, гутарыў з віцебскімі бізнесменамі аб магчымым гандлёвым супрацоўніцтве з індыйскімі фірмамі.

**М. ВАЛАЧОБНІК.**

## *Праграма мастацкіх фільмаў на рэшту тэлетыдня*

### Серада, 13 кастрычніка

**Беларускае тэлебачанне**

11.50. «Руская рулетка».

13.40. «Сакрэтны фарватар».

22.55. «Асада Венецыі».

**Канал «Астанкіна»**

8.50 і 18.00. «Проста Марыя».

11.20. «Блуканне па пакутах». 9-я серыя.

12.25. «Візіт дамы». 2-я серыя.

**Канал «Расія»**

10.50 і 19.25. «Санта-Барбара».

13.25. «Лёс». 2-я серыя.

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

8.20. «На парозе ночы». 13-я і 14-я серыі.

12.40. «Іудушка Галаўлёў».

### Чацвер, 14 кастрычніка

**Беларуске тэлебачанне**

8.50 і 21.45. «Салодкі ручай».

13.40. «Сакрэтны фарватар». 3-я і 4-я серыі.

**Канал «Астанкіна»**

8.20 і 17.55. «Проста Марыя».

11.20. «Блуканне па пакутах». 10-я серыя.

12.35. «Карусель».

21.20. «Іван Васільевіч мяняе прафесію».

**Канал «Расія»**

10.50 і 19.25. «Санта-Барбара».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

8.05. «Сон актрысы» (Кітай).

15.50. «Пагладзь кошку за вушамі».

20.55. «На парозе ночы». 15-я і 16-я серыі.

### Пятніца, 15 кастрычніка

**Беларускае тэлебачанне**

9.20. «Салодкі ручай».

11.55. «Поезд па-за раскладам».

14.00. «Загадка Эндхауза».

21.45. «Невядомая жанчына».

**Канал «Астанкіна».**

20.55. «Марлоу, прыватны сышчык». 2-я серыя.

**Канал «Расія»**

10.50. «Санта-Барбара».

16.55. «Тэрмінова патрабуюцца дзеці». 2-я серыя.

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

6.45. «Мішук».

7.55. «На парозе ночы». 15-я і 16-я серыі.

12.40. «Упершыню замужам».

15.25. «У год чарапахі».

23.00. «Жыццё цудоўнае» (ЗША).

### Субота, 16 кастрычніка

**Беларускае тэлебачанне**

8.25. «Невядомая жанчына».

21.50. «Салодкія мроі» (ЗША).

**Канал «Астанкіна»**

11.55. «Ціхі Дон». 1-я серыя.

14.25. «Пепі—Доўгая панчоха».

18.45. «Стынгрэй». 1-я серыя. 1-я частка.

20.40. «Вайна Джэні». 1-я серыя.

23.25. «Дэкалог-V» (Польшча).

**Канал «Расія»**

19.25. «Уінстан Чэрчыль. Шлях да вяршыні». 3-я серыя.

23.40. «Фуэтэ».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

8.05. «Жыццё цудоўнае» (ЗША).

20.35. «На парозе ночы». 17-я і 18-я серыі.

23.25. «Золаташукальнікі».

### Нядзеля, 17 кастрычніка

**Беларускае тэлебачанне**

8.55. «Асада Венецыі».

16.25. «Залатое цяля».

21.05. «Маскі» (Францыя).

**Канал «Астанкіна»**

19.30. «Каханне немаладога чалавека».

**Канал «Расія»**

13.35. «Слёзы капалі».

19.25. «Кранутыя».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

9.05. «На парозе ночы». 17-я і 18-я серыі.

15.30. «Тайна старога гарышча».

16.45. «ЧП раённага маштабу».

22.35. «Самазабойца».

## Вясёлы глобус

—Паслухай, Эрна, мой муж гаворыць у сне. Гэта чорт ведае што такое. Твой таксама?

—Не, гэты эгаіст толькі смяецца.

***

—Скажы, Марта, што ты робіш, калі злуешся на свайго мужа?

—Стаўлю ягоныя тапачкі ў маразільнік.



Выбар

Заснавальнік

*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

**Галоўны рэдактар Барыс ХАМАЙДА**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Валянцін АРЛОЎ**
**Хрыстафор ЖАЛЯПАЎ**
**Васіль ІГНАЦЕНКА**
**Юры ЛАЎРЭНАЎ**
**Ларыса МІХНЕВІЧ**
**Міхась ПАЎЛАЎ**
**Уладзімір ПЛЕШЧАНКА**
**Леанід ТАМАРОВІЧ**
**Ігар ЦІШКІН**

Мастак **Р. Клікушын.**
Фотаздымкі **М. Міхайлава.**
**Адрас рэдакцыі:** 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17.
**Тэл. 37-35-06, 37-28-44.**

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, гаспадарча-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.**

**Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

**Пры перадруку спасылка на «Выбар» абавязковая.**

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

**Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку (Віцкамбанк). Код (МФО) банка 150801701.**

**Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні імя Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.**

**Выдаецца з кастрычніка 1991 г.**

**Выходзіць штотыднёва па сярэдах**

Нумар падпісаны да друку 12.10.1993 г. у 17.15.
Наклад 1500 экз.

**Кошт 10 руб.**